# ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Цэна асобнага № 15 кап.

**Умовы падпіскі на 1917 год.**

| За 1 м. | За 2 м. | За 3 м. | За 4 м. | За 5 м. | За 6 м. | За 7 м. | За 8 м. | За 9 м. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 р. | 2 р. | 3 р | 4 р. | 5 р. | 6 р. | 7 р. | 8 р. | 9 р. |

Падпіска прымаецца толькі с 1-го чысла кожнага месяца.

Перамена адрэсу—50 коп. Пры зьмені адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісавы і толькі з аднаго боку паперы. Кепска перапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца ня будуць.

На ліставаньня, перасылку рукапісау і іншыя адказы-павінны прыкладацца маркі.

**Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.**

Год выданьня 1.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Мінск, Захараўск. 18

**Умовы друку абвестак:**

(На IV боку газэты) за 1 радок шпальту 40 к. за 2 рад. 80 к. за кожны раз.

Асобам, шукаючым працы — 1 руб. за 3 радкі за адзін раз.

**№ 17. 1917 г. Серада Выходзіць двойчы на тыдзень. 30 жніуня 1917 г. № 17.**


## Дзеля чаго і як пішуцца прыгавары пра навучэньне у роднай мові.

Грамадзянство,—таварышы, браты, сёстры, сыны і дачаркі аднае нашай Мацяры—Беларусі! Злучайцеся ў адну беларускую сямью, каб выявіць сваю сілу, сваё нацыанальнае аблічча, каб ніхто ні мог сказаць нам, беларусам, што мы людзі, каторыя адцураліся ад свае мовы і ад свае Мацяры—Беларусі; каторыя забыліся, хто яны, чые сыны, якіх бацькоў. Горка нам будзе слухаць такія гутаркі пра нас, як народ, што быў вольны, меў сваю школу, свой суд, сваю волю і шанаваў сваю мову. Дзяды нашы і прадзяды умелі самі у сябе гаспадарыць, ні дазвалялі зьняважаць сябе чужынцам, покі цяжкая гістарычная доля ні аддала ў няволю спачатку пад Польшу, а потым пад Маскоўшчыну. Ні забывайце, грамадзяне, што уся наша зямелька зьліта кроўю шчырых сыноў Беларусі, каторыя ні шкадавалі жыцьця свайго, каб абараніць бацькаўшчыну сваю, нашу волю і нашу зямлю.

Мы цяпер вольны і праз гэта павінны самі падбаць пра сваю лепшую долю, пра адбудаваньня нанова свайго грамадзянскага жыцьця. А жыцьцё наша стане лепшым толькі тагды, калі мы усе грамадой парупімся аб тым, каб па сёлах, вёсках і гарадох пазаводжаны былі нашы беларускія школы, дзе навучэньне будзе выкладацца на нашай беларускай мові. Покі ня будзе у нас нашае школы, да тых пор мы будзем цёмнымі, заштурханымі, зьняважанымі, а цёмнаму чалавеку ня прынясе карысьці ні зямля ні воля. Мы павінны яшчэ дабіцца таго, каб скрозь,—па судох, у земствах, камітэтах, у цэрквах, касьцёлах запанавала наша беларуская мова. Тагды ніхто ні асьмеліцца з нас насьміхацца, тагды ні будуць казаць, што наша мова простая, селянская, як ніхто ні казаў гэтага і ні сьмеяўся у тыя слаўныя часы, калі наша старонка жыла самабытна, незалежна і мела свае школы, суды і законы. Тагды і нас і мову нашу шанавалі і палякі і расійцы, французы і немцы. А сталася так тагды, як мы страцілі сваю беларускую волю да зрабіліся беднымі. Зразумейце-ж, браты-беларусы, што нас падашукалі. Сьмяяліся з нас і з мовы нашае толькі паны, цары да багатыры, каторым карысна было, бо хто саромеецца свае мовы, хто ні мае свае школы і ні вучыцца на сваёй роднай мові, той заўсюды будзе цёмны і ніразумны, як бязмоўнае стварэньне, і ім лягчэй камандаваць, лягчэй трымаць у прымусі ды у пастаянным парабоцтві. Але брэшуць яны, скончылася іх панаваньне, і мы, беларусы, возьмем ў свае рукі і школу, і сваё права.

Браты-Беларусы! Да гэтага часу гаспадарылі у нас чужынцы,—палякі ці маскоўцы. Яны зрабілі вялікі беларускі народ сваім парабкам, папіхачом, трымалі яго у цямноці і зьдзеку. Каб умацаваць сваё панаваньне і мець заўсюды паслухняных служкаў, дык яны вырвалі у народа нашага яго язык, яго спрадвечную бацькаўскую мову, завёўшы па школах, судох і ўсіх інстытуцыях краю сваю, мала зразумелую для нас, мову. У школах вучылі дзетак нашых, і вучылі выракацца ад усяго роднага, беларускага, і сьмеяцца з бацькаўскіх звычаяў. Скончылася тым, што народ паверыў падашуканству ворагаў сваіх ды ўзапраўду стаў лічыць сваю мову «простай» «мужыцкай» і «брыдкай.» Цяпер мы ведаем дзеля чаго гэта рабілася, дык ні давайма ворагам нашым,—палякам і расійцам, заводзіць свае парадкі. Ніхай яны, у Польшчы ці Маскоўшчыні, у сябе дома, робяць што хочуць, а мы, беларусы, абойдземся і бяз іх панскае фатыгі. Сьмейцеся з іх мовы, калі яны з нашай сьмяюцца, бо цяпер вы ведаце, на што яны гэта робяць. Яны гэта рабілі і робяць, каб трымаць вас ў кайданах няволі, каб ямчэй сядзець на вашай шыі.

Зьбірайцеся, беларусы,—талкуйце, разважайце, злучайцеся ў грамады, закладайце гурткі і хаўрусы. Рабіце складчыну на грошы і выпісуйце з Мінску беларускія кніжкі і газэты. Чытайце, вучыцеся, шануйце родную мову, тагды станеце асьвечнымі і разумнымі і ніхто вам крыўды ні зробіць. Пішыце прыгавары, што хочаця мець сваю беларускую школу, хочаця вучыць сваіх дзетак ў школах беларускаю мовай. Пасылайце прыгавары гэтыя у камітэты, у земствы, да вучыцяльскіх хаўрусаў. Пакажам ворагам нашым і тым «прыяцялям» расійцам і палякам, што насьміхаюцца з нас,—пакажам ім, што мы вольны народ, што мы любім нашу Матку-Беларусь, нашу родную беларускую мову. Украінцы, палякі, літвіны і фінляндцы ужо зрабілі гэта,—брыдка нам, беларусам аставацца ззаду. Трэба нам зрабіць волю для Беларусі, завесьці у сябе дома свае беларускія парадкі, бо «у сваёй хаці свая праўда, сіла і воля.» Мы ні хочам, каб у нашых школах вучылі ні нашаю, чужынскаю моваю, каб рабілі з дзетак нашых некіх перакінчыкаў, што потым сьмяюцца з бацькоў сваіх і з звычаяў нашых. Наша мова, наша песьня ні памрэ, ні згіне. Гэта наша слава, гордасьць і пыха. Некалі, яшчэ да паншчыны, на Беларусі больш было асьвечных людзей і нашы людзі вучылі маскоўцаў, цяперашніх расійцаў, а як адабралі у нас нашу родную мову, як забаранілі вучыцца і друкаваць кніжкі па-нашаму, дык народ наш стаў самым цёмным і заштурханым па ўсёй Расіі.

Кайданы, ў якіх быў закован беларускі народ, цяпер парваліся. Падайма адзін другому рукі і злучымся ў адну згодную беларускую сямью. Беларусы праваслаўныя і каталікі,—усе мы брацьця, усе дзеці аднае нашай Маткі-Беларусі. Да працы, грамадзянства! Спаць німа калі. Хто будзе спаць цяпер, той ні сын Беларусі, а непрыяцель усяго беларускага народу. Ніхай яхаю коціцца па ўсём сьвеці роднае слова пра родную Беларусь.

Прыгавары пра навучэньне роднаю моваю пісаць трэба гэтак:

«Году 1917, месяца. . . . . . . . . .
„. . .“ дня. Мы, грамадзяне, села. . . . .
. . . . . воласьці. . . . . . . . . павету
. . . . . . . . . губэрні . . . . . . . . . .
сабраўшыся гэтае лічбы на абраду нашых грамадзкіх спраў, абмяркавалі пытаньне пра навучэньне ў нашай школі дзяцей нашых роднаю беларускаю моваю. Абмяркаваўшы гэтую справу з ўсіх бакоў, пастанавілі: 1) с пачатку гэтага 1917-18 вучэбнага году пачаць навучэньне дзяцей нашаю роднаю беларускаю моваю; 2) прасіць мейсцовую паветавую Земскую Управу [або Школьную Раду] прызначыць да нас, у нашу школу вучыцяля-беларуса, або таго, хто ведае беларускую мову і 3) прасіць паведаміць нас пра тое, што будзе зробляна дзеля выкананьня гэтага прыгавару. Подпісы.»

Прыгавар трэба паслаць, куды належыць, а копію з яго—ў беларускую газэту дзеля ведама усіх.

Падаў Язэп Лёсік.



## Граматыка і родная мова.

Адтрымаліся весткі, што ужо напісаны і хутка надашлюцца да друку тры беларускія граматыкі трох розных аўтараў. Адзін з гэных аўтараў, філёлёг Б. Тарашкевіч, наўмысьля, каб ухіліцца перашкод у працы, удаўся быў на вёску у Фінляндзію на цэлае лета, і там абдумваў, укладаў і цяпер скончыў пісаць беларускую граматыку і аддаў на перагляд знаўцам і крытыкам, каб дасьведчыцца, ці ўсё ясна апрацована, ці німа якіх хіб і ці ня трэ' дзе зрабіць якіх перамен, або паправак. Значыць, ні ў далёкім часі яна надрукуецца, выдзе ў сьвет, і мы мецімем сваю ўласную беларускую граматыку. На моцы гэтага усьцешнага для нас выпадку, цікава азнаёміцца с тым, чаго вымагае сучасная навука ад граматыкі, як школьнага падручніка, чым мае кіравацца і якой мэты павінен трымацца настаўнік у справі навучэння граматыцы роднае мовы і, такім чынам, падкрэсліць сабе, чаго мы маем спадзявацца і вымагаць і ад аўтараў першых спробаў беларускае граматыкі, або, як пісалі даўней, «навукі добра размаўляць і пісаць». На конта гэтага істнуе многа разумных паглядаў,—навука мае многа гіпотэз,—але самы лепшы для справы навучэння будзе той погляд, што дамагаецца і мае на увазі перш за ўсё тое, каб дапасаваць граматыку дзеля найлепшага і лягчэйшага способу развіцця мовы і упрашчэння правапісу. Разьбіраючы гэта, мы угледзім, што правапіс у граматыцы займае саўсім нізначнае мейсца паводлуг таго, што вымагаецца расійскімі падручнікамі, і што сэнс і задання граматыкі зусім ні ў тым, дзе тоўпіла яго маскоўская школа; што дзеці нашы дарэмна лілі сьлёзы, перамагаючы труднешчы маскоўскага правапісу і што нам трэба раз пазаўсюды адхіснуцца ад тае граматнасьці, каторая унетрылася сярод нашае інтэлігенцыі праз маскоўскую школу на грунці ні расійскай, а некае «інтэрнацыанальнай» маскоўскай граматыкі. Зразумелі гэта і маскоўцы, на моцы чаго і быў выдан міністрам цыркуляр аб упрашчэнні вялікарускага правапісу.

На гэты раз мы падамо у агульных рысах, з дзе якімі уласнымі увагамі, змест артыкулу: «Рідна мова в українській школі» І. Огієнко, надрукованага у украінскай газэці «Нова Рада».

**Кантора «Вольнае Беларусі»** напамінае шаноўным перадплатнікам, што за зьмену адрасу трэба плаціць 50 к. Грамадзян падпішчыкаў, зьмяніўшых адрасы і ня прыслаўшых належных за гэта грошы, Кантора просіць паклапаціцца аб як найхутчэйшым іх высланьні.

I.

«Калі мы уважна прыцікуемся да таго, чаму вучаць па сярэдніх школах, калі мы пільна і дакладна разглядзім праграму нашых школьных навук», піша Огієнко: «дык адразу кінецца у вочы іх убогасьць, малая іх навуковая і жыццёвая вартасьць. Чалавеку, каторы не праняўся школьнымі забабонамі, нават кінецца у вочы с такога перагляду і тое, што нехта як наўмысьля пастаянна нахіляў школьную навуку у той бок, каб яна забівала дзецям розум і дурыла іх слабыя галовы «навуковаю» бязсэнсіцаю».

Найважнейшаю з школьных навук, грунтоўнаю падставаю школьнай асьветы, бязумоўна, была і заўжды будзе родная мова. Навучэнне роднае мовы, роднае літэратуры у новай школі павінна стаць моцным падмуроўкам усей школьнай навукі. На гэта трэба зьвярнуць як можна больш увагі, затраціць як можна больш часу, як можна больш сілы і знання. Калі руйнуецца стары лад, калі яшчэ ня выраблян лад новы, дык трэ' баяцца таго, каб наша маладая беларуская школа не пабудавалася з старога пляну, з пляну расійскае школы. Плян той даўно прагніў, даўно ужо прыстаў ад жыцьця. Яго латалі, як маглі, латалі на белую нітку, на сьпех, абы толькі ня сьвяцілася праз убогае убранне грэшнае цела. І стаіць цяпер на раздарожжы расійская школа, абсмыканая усялікімі Шварцамі і Кассо, налатаная Делянавымі і Ігнатьевымі. Стаіць у латанай вопратцы, як цыганскае дзіця, або як жабрацкі павадыр. І толькі вялікая армія заскованых, заштурханых, духоўна і матэрыяльна прыціснутых настаўнікаў ратавала тую школу, бараніла яе сваім жыцьцём, душу сваю пакладаючы за яе. Бараніла яе, бо спадзявалася, што і з гэткай школы разыдзецца сьвет, загарацца іскрачкі і раздзьмухнуцца с часам у вялікае полымя.

Вось і боязна, каб закладаючы новую школу, ня пабудаваць яе з старога, трухлявага пляну. У жыцьці складаецца так, што калі руйнуецца старое, дык яно ня нішчыцца да шчэнту і заўжды будуюць новае гэтак, што падмалёўваюць, латаюць і паджыўляюць старое. Гэта бывае, як у палітыцы, грамадзкіх стасунках, так і ў навуцы і у справах школьнага навучэння. Трэба зауважыць, што навучэння роднае мовы ня павінна ісьці бітымі сьцежкамі, тым шляхам, якім яно праводзіцца у расійскай школі. Трэба асьцярагчыся, каб у нас у пытанні пра мову ні бралі за прыклад школы расійскай, ня пераймалі тае праграмы мовы, што пануе у старой школі.

II.

Прыгледзімся да таго, чаму навучалі у расійскай школі пад назваю «родная мова (русскій языкъ).» Навучалі ні мовы, ні асобнасьцяў мовы, яе сапраўдных

прыкмет, а навучалі сухім толькі формам мовы, навучалі такім формам мовы, каторыя аднакія з усімі мовамі Эўропы. У расійскай школі ня вучылі граматыкі расійскай мовы, а вучылі і вучаць граматыку інтэрнацыанальную. Вучыць адменяць канчукі слоў, як напрыклад: «стол, стала, сталу», ці «нашу, носіш, носіць», ці знайці «падлежашчэе» або «сказуемое» у тэй ці іншай думцы, гэта яшчэ ня азначае вучыць граматыку. Вазьміця якую хочаця расійскую граматыку, перакладзіце яе на мову, скажам, швэдскую, падмяніця парадыгмы—і граматыка швэдскае мовы гатова... «А калі так», піша Огіенко: «дык я пытаю, чаму-ж такая граматыка завецца граматыкай мовы расійскай? Што тут ёсьць расійскае?»

Адгэтуль відаць, што нам трэба асьцярагацца перэймаць што--небудзь з гэткіх інтэрнацыанальных граматык. Нам асабліва трэба трымаць гэта на увазі, бо мы самі выхаваны і узрасьлі на старых расійскіх граматыках, і трэба быць вельмі асьцярожным, каб ня паддацца уплыву таго, да чаго нас прывучылі з дзяцінства у старых расійскіх школах. А калі так, то паўстае пытаньне—што ж павінна даваць беларуская граматыка, аб чым яна павінна вучыць, на яком грунці давядзецца яе будаваць? Дый да рэчы сказаць—што гэта граматыка, які яе зьмест?

Першай падставаю, на якой павінна закладацца беларуская граматыка, гэта будзе навука. Граматыка наша павінна будавацца толькі на навуцы, на навуцы сапраўднай, на моцных навуковых законах. А ўсё тое, пра вошта ні даведзяна навукаю, ні павінна мець мейсца у нашай граматыцы. І усё трухлявае, што даўно асуджэна навукаю, ня павінна мець сьцежкі да новай беларускай граматыкі. У нас сталася так, што скрозь проста баяцца навуковасьці у граматыцы, жахаюцца гэтае навуковасьці, як страхоцця, як чагось нічуванага і німагчымага. Навуковасьці ня жануць ані з гісторыі, ані з прыродазнаўства, ані з матэматыкі. Толькі нябога-граматыка мусіць цурацца навукі як чагось чужога, ні роднага і нават шкадлівага. І цяпер па школах пад назваю граматыкі вучаць нешта макое мізэрнае, што с пагляду навукі ня мае жаднае вартасьці. Усе вучоныя філолёгі даўно ужо ў адзін голас прызналі, што расійская школьная граматыка набіта шкадліваю бязсэнсіцай, усім, чым хочаш, але ні тым, што мае зьвязкі с сапраўднаю навукаю. Мы ўсе вучылі расійскую граматыку, але мы вучылі ня сапраўдную граматыку, а толькі граматычныя формы і правапіс. Усе мы ведаем, што словы, скажам, «тереть, мереть, переть» праз ѣ пісаць ня можна. А чаму? Кажуць—гэта вылучнасьць (исключеніе). Даляй, кожны з нас ведае, што словы: «прежде, втуне, вообше» (наагул)—ня маюць на канцы ѣ. Чаму? Зноў расійская граматыка адказвае, што гэта вылучнасьць. І гэтак на кожным кроку. Бедны вучань прыходзіць да думкі, што нібыта німа закону бяз вылучнасьці. Маскоўцы гэтак і выслаўляюцца: «нѣтъ правила безъ исключенія». Да такой шкадлівае думкі прывучае іх сама іх тхлявая граматыка, тагды як навука нам кажа зусім іншае.

Трэба парупіцца, каб беларуская граматыка ухілілася ад шкадлівых забабонаў. А граматычныя забабоны страшэнна цупкія і вякамі пануюць у школьных граматыках. Напрыклад возьмем пытанне—аб чым павінна вучыць граматыка? На гэта яшчэ вядомы рымскі граматыста, Элій Донат, адказаў: «Граматыка ёсьць навука добра размаўляць і пісаць.» Першыя беларускія [і украінскія] граматысты перанесьлі гэтае Донатавае разуменне граматыкі і да сваіх кніжак. У граматыцы Лаўрэнція Зізанія 1596 году чытаем: «Граматика есть певное ведане, жэбысь мы добре мовили и писали.» Гэтае самае знаходзім і у вядомай беларускай граматыцы. М. Сматрыцкага 1619 году. Цікава зазначыць, што гэта беларуская граматыка амаль ні два сталецьця служыла падставаю, на якой будаваліся усе расійскія [маскоўскія] граматыкі.

С часу Доната праміпула ужо ні больш ні меньш, як 15-ць вякоў, а школьныя граматыкі яшчэ і цяпер ставяць сваім заданням Данатава разуменне граматыкі, хоць навука даўно ужо давяла, што зьмест граматыкі ня ў тым павінян тоўпіцца. На беларускай граматыцы павінна быць чырвонымі літарамі выдрукавана: «Граматыка гэта навука пра жыцьцё беларускае мовы.» І з гэтага навуковага задання у нашай граматыцы мы і мусім паказаць, што граматыка надае законы і кірує жыцьцём нашае мовы. Вучні з гэткае граматыкі павінны дасьведчыцца, што мова—гэта арганізм жывы, які пастаянна трымаецца свае уласнае сьцежкі і залежыць ад сваіх цікавых законаў. Зьявішча мовы родзяцца, жывуць і канаюць, як кожная жывая істота. Граматыка павінна даць поўны і дакладны малюнак жыцця нашае мовы, павінна намаляваць яе ад яе пачатку да нашага часу. Яна павінна паказаць, што працэс утварэння мовы ніколі ня прыпыняецца. Кожны с такоі граматыкі лёгка пяроймяцца думкаю, што цяперашняя становішча нашае мовы ні апошняя: быў свой пачатак, ёсьць сваё жыццё, будзе і свой пэўны канец. Мова пастаянна пасуваецца ўперад, асабліва, калі маяцца добры грунт на яе узрост і поступ. Гэтак жыве кожна мова, гэтак будзе жыць і наша мова.

З гэткае граматыкі кожны навоч пабачыць, як ні да сэнсу тыя выгадкі, што нібыта у беларускай мові ня хапае слоў, што выдумляюцца новыя, штучныя словы, што у нас многа чужых, ні сваіх, пазычаных слоў, што мы ня пішам так, як гавораць на сёлах. Усё гэта выгадкі нашае філолёгічнае цямнаты,—скуткі таго, што мы ня ведаем, як расьце і жыве кожная мова, які яна мае шлях і паступовасьць. Кожнаму з нас даводзілася чуць, што кажуць пра чалавека, каторы ворочаецца да дому з навукі: «як ён перамяніўся,—ні пазнаць!» І той, хто кажа, што нашi кнігі і газэты друкуюцца ня гэтак, як гавораць па вёсках, ня ведае, што кажа; ня ведае, што ён прыстаў ад жыцця, што ня скардзіцца і выгадваць яму трэба, а вучыцца і даганяць, як мага даганяць, каб ня заблудзіць ў адзіноці і ня загінуць марне. Наша мова—пекная галіна агульнай славянскай мовы, і ні дзіва, што у нас многа аднакіх слоў с палякамі, расійцамі, чэхамі, баўгарамі, і т. д. Але сэнс зусім ні ў тым. Музыкальная гамма аднакая у ўсіх народаў: до, рэ, мі, фа, соль, ля, а тым часам, што-ж мы бачым? Кожын народ так умея перастаўляць асобныя часткі гэтай гамы, так іх перарабляе па свайму густу, натхненню і здольнасьці, што выходзіць саўсім асобная мэлёдзія: музыка і песьня італьянская, нямецкая, гішпанская, польская, маскоўская і т. д. Літэратурная мова—гэта мёд, што зьбіраецца пчоламі з розных кветак і расьлін. Чым больш сокаў з усялякіх кветак уходзяць у склад мёду, тым ён прыемнейшы, салодшы, смачнейшы і пахучы. Літэратурная мова павінна, цьвёрда трымаючыся агульнага нацыанальнага грунту, лучыць да сябе усе тыпічныя характэрныя словы, прыслоўя, выразы і іншыя асобнасьці тых мейсцовасьцяў, гаворак таго народу, мовою каторага яна ёсьць. І расійцы зрабілі вялікую памылку, згадзіўшся с тым, што тыпічнай мовай іх языка ёсьць падмова маскоўская, гаворка ось тых кабет, да каторых хадзіў вучыцца іх вялікі паэт і пісьменнік, Пушкін. Гэта іх памылка, што яны, прыняўшы адну гаворку, сьмяюцца з другіх уласных гаворак, як з брыдкіх, сарамлівых паветалізмаў (правінцыалізмаў). І ні дзіва, што просты селянін—расіец, ня гледзючы на тое, што іх мова пануе усюды, бадай што саўсім ня разумея тае мовы, на якой пішуцца у іх книжкі і друкуюцца газэты. Самі расійцы гэта разумеюць і вось што, напрыклад, піша аб расійскай літэратурнай мові вядомы расійскі крытык, Добролюбов: «Вѣдь у насъ языкъ литературы собственно не русскій, и черезъ сто лѣтъ надъ нами, конечно, будуть такъ же смѣяться, какъ мы теперь смѣемся надъ языкомъ ассамблей петровскаго времени». Наагул, як даводзяць знаўцы, народнага языка расійскага у пісьменстві ніколі ня было і німа, іх народная мова цалкам асобная па свайму складу ад мовы пісьменнай, на каторай расійцы пішуць.

Заўважыўшы гэта, мы павінны далажыць усіх сіл, усіх заходаў, каб ухіліцца ад гэткага сумнага зьявішча. Мова—гэта душа чалавека, краса і аздоба. Мова, як чалавек, павінна шанавацца, пажацца і прыбірацца с кожным разам у лепшыя, багацейшыя і зграбнейшыя убрання. Кожнае, адметнае слова, кожны асобісты выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны с пашанаю стрэчаць і з вялікаю любасьцю, як надзвычайную вартасьць, далучаць у агульную скарбніцу нашае літэратурнай мовы, а ні хавацца за паветалізм, ня цурацца і ні казаць ніабачна, што у нас гэтак ні кажуць. Калі, скажам для прыкладу, у адным мейсцы кажуць яха, а ў другім рэха, калі адзін кажа маланка,

## Сымон Музыка.

(Працяг. Гл. № 13).

IV.

Нікло жыцьце у лесі шумным,
Агаляўся твар зямлі,
І ляцелі с крыкам сумным
Над балотам жураўлі.
Глухла поле, усё сьціхала,
Як бы дух пранесся злы.
У смутнай думцы пазірала
Даль спад сіней дымкі мглы.
Так на дзетак глядзіць матка,
Як расходзяцца яны
Па ўсім сьвеці з роднай хаткі
На мяжы сваёй вясны.
Нейкім жалем павевала
Ад аголеных палёў,
Ад шнуроў тых, дзе бывала
Несся шэпат каласоў,
Там цяпер ральля чарнела,
Глызы ўскопанай зямлі
І пакошу сеткай белай
Павуцінкі заплялі.
Пад агульны смутак гэты
Граў Сымон цяпер адзін,
Граў пращчаньне жыцьцю лета,
Сьпеву—радасьці далін;
Граў разлуку з дзедкам мілым:
Дзед ня ўздужаў далей жыць,
Пад канцом зямлі магільнай
Лепшы друг яго ляжыць.
Сьмерць прышла ніспадзевана;
Ужо даўно яна, як цень,
Поруч шла за ім, пагана,
І забрала ў ясны дзень
Пры ўсіх людзях, сярод поля,
Як ён трошкі прыкархнуў.
Згас стары пастух бяз болі,
Раз ці два адно зяхнуў.
Перацёр дзед век бязродны,
Ціха жыў і так сканаў.
І ніхто ў пясок халодны
Сьлёз гарачых ні раняў,
Як яго труну спускалі,
Як па ёй шуршэў пясок;
Толькі дзьве сьлязы блішчалі
С пары кругленькіх вачок.
Прытуліўшысь між крыжамі,
То Сымонка сумаваў
І украдкам, кулачкамі,
Сьлёзы жалю уціраў,
Ды разбіты звон жалобна
Раз ці два загаласіў,
Ды у труну каменчык дробны
Як у бубен, забубніў.
І цяпер вастрэй Сымонка
Адзіноту ў сэрцы чуў;
Жаль і смутак, як пялёнка
Крэпка сэрца агарнуў
Усё багатства, што дзед справіў
За век доўгі,—скрыпку, смык,—
Усё Сымонку ён аставіў.
—Ты—музыка-чараўнік!
Грай жэ дзеткі: скрыпка важна,
Смутак ты ёй свой вальлеш,
І душа заплачэ кажна,
Як ты смыкам павядзеш,
Бо хто ў горкай паняверцы
Смыча дома, жывучы,
У таго ў людзкое сэрцэ
Есьць праўдзівые ключы.—
Так казаў дзед, як Сымонку
Сваю скрыпку аддаваў.
Быў ў тэй скрыпцы голас звонкі,
Бас раскаціста дрыжаў,
Як па струнах смык. бывала,
Ручка здольная вяла.
Добра гэта скрыпка грала
І зьвінела, і гула.
Ото-ж хлопчык наш быў рады,
Як ён скрыпку атрымаў
І апрэч такой аблады
Больш нічога ні жадаў.
А як хлопцу кепска стане,
Як занудзіцца чаго,—
Успомне скрыпку—радасьць гляне
У душу, ў сэрдэнька яго.
Ну, й да скрыпкі быў ён здольны:
Як заграе, як утне!
Мах шырокі, сьмелы, вольны,
Як бы што цябе таўхне—
У скокі так і падбівае,
Ногі самі тупацяць.
—От, Сымонка! Ну-ж, і грае!
Ото-ж, леўка, выцінае!
Сам, як вузел, а так—грацъ!
На Сымонку і дзеўчата
Сталі ласку зварачаць.
Як прасілі хлопца ў сьвята
Ім «Лявоніху» заграць.
І Сымонка пад бародку
Дар старога дзеда браў
І, прысеўшы на калодку,
Сэрцэ дзеўкам пацешаў.
Спрытна пальчыкі хадзілі,
Смык то плаваў, то летаў,
Струны дружна гаманілі
Як віхор іх уздымаў,—
То разгульна і шалёна
То спакойна—чуць чуваць...
Нават ў хаці на Сымона
Начай сталі пазіраць.
—Карысьць будзе хоць якая—
Маці думала аб ім:
Дык нехай, здаровы, грае,
Чым меў ў ценжар быць другім.
Бацька—хоць не прызнаваўся,
Усё-ж, бывала, трохі мяк,
Як за сына даставаўся
І яму увагі знак.
Ды Сымонка неахвотна
Граў «кадрэлі» «кавалі»,—
Біў ён больш на лад маркотны
Дзе пакутаю зямлі
Аддаваўся сьпеў гаротны,
Сьлёзы жаласьці цяклі.
І дзе жальба чулась, сьціскі,
Крыўда, енкі бедака,
Бо сьвет смутку болей блізкі
Быў для сэрца хлапчука.

V.

Час падходзіў за Пакровы,
Вецер ліст з лясоў атрос,
І на поле свае ковы
Кінуў злёгінька мароз.
Адзінотай і пустэчай
Усюды веяла с палеў
Нейкай млявасьцю старэчай
Аддавала ад лугоў.
У такі час Сымон Музыка
Выгнаў стада авечок;
Ціха, глуха, ані зыка...
Сеў пад хвойкай пастушок,
А авечкі рунь шчыпалі
Каля лесу тут адны,
Ды трывожна пазіралі
І палохаліс яны:
Але іх такая ўдача
З глупства пудзяцца, бягуць;
Цень ці хвойку, куст убачаць,—
Капыткамі зямлю бьюць.
І Сымонка з іх сьмяяўся:
—От, дурные! ха-ха-ха!
Куст ім страхам паказаўся!—
Пад гаворку пастуха
Зноў авечкі, як каменьня,
Раскідаліс між купьёў,
Каб пры першым жэ здарэньні
Цесна ў кучу зьбіцца зноў.
Ды сягоньня надта пудкі
Штось авечачкі былі.
—Ну, што з вамі, мае «шуткі» ?*)
Што вы ў головы ўзялі?—
Гаварыў Сымонка з імі
І самога страх шугаў,
І трывожна ён вачыма
Поле, хвойнік азіраў.
—Хі ня воўк іх тут пужае?—
Толькі так прамовіў ён—
Воўк з ялоўца вылетае,
Здаравецкі такі,—конь!
Ды ў авечкі, шэльма, садзіць,
Злы, раз'ярэны, як кат!.
І дзе хлопцу з зьверам зладзіць?
Толькі ўскочыць ў стадка, гад,
Воўчым зубам дзе кранецца—
Каля карку, хопіць ў пол,
Ні адна ні скрэпянецца,
Трупам кінецца на' дол,
З немым крыкам перапуды
Хлопчык кінуўся туды.
—Га! ага! воўк! Куды—куды!
Людзі, воўк! Сюды! сюды!
Разагнаў авец зьвяруга.
Трох на мейсцы улажыў,
А баранчыка схапіў
І панёсся ў лес, зладзюга.
Пастушок перапужаўся,
С крыку немага ахрып
Усюды воўк яму здаваўся,
Адкаціўшы сівы хіб.
Страх і жаласьць агарнулі,
Плачэ горкімі сьлязьмі.
Людзі гэты плач пачулі,
З лесу едучы з дрыўмі,
І на крык хоць беглі жыва,
Ды ня ў пору ужо прышлі:
Пазьбіраць авец пудлівых
Толькі хлопцу памаглі.
Гнаў Сымонка рэшту стадка,
Страх хлапчыну пашыбаў:
Не даруе яму татка,
Што авец не ўпільнаваў.
Чула сэрцэ, што «праборкі»
І папругі не мінуць,

*) авечкі па-дзіцячы.

